# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

17 красавіка 2000 №31 кошт 1 літ



Здымак Генадзя Жынковай

…За высокім ілбом – таямнічыя формулы веку,
Што на Месяц узьняў чалавечыя дзёрзкасьць і тло.
Зьзяе зорка над ім (ці анёл, што трымае апеку),
Ды ня зглездзець яе: нетутэйшае гэта сьвятло.

Над жыцьцём і нябытам яна, і над лёсам вандроўным,
Над усім, што прайшло – дый сягоньня жыве,
Над карэліцкім хлопчыкам, што выганяе карову
І бяжыць басаножка па асеньняй пякучай траве…

**Вольга Іпатава**
Франкфурт-на-Майне, 3 сьнежня 1993 г.

*Казаньне з нагода Дня Волі*

## Сытуацыя Беларусі вельмі патрабуе дапамогі Божае

бо самі людзі, ня маючы аўтаматаў, шчытоў, гумовых нагайкаў, нічога зрабіць ня могуць. Толькі застаецца ўпаваць і спадзявацца на цуд Божы, што калісьці з нашага добрага народу спадуць кайданы. Наш народ будзе свабодны, шчасьлівы. Таму мы перапросім у Пана Бога за нашыя грахі, каб мы маглі годна скласьці гэтую найсьвяцейшую ахвяру ў інтэнцыі ўсіх беларусаў, асабліва тых, хто жыве ў Беларусі, бо іншыя беларусы, у ЗША, Канадзе, нават у Літве, не адчуваюць таго, што перажывае народ беларускі ў самай Бацькаўшчыне – Беларусі.

У сэрцы тое, што сьціскае горла, тое, што бачым у тэлевізіі, што мне распавядаюць былыя парафіяне зь Менскае катэдры па тэлефоне. Адно – бачыць на экране тэлевізараў, і зусім іншае, калі бачыш усё на свае вочы. А я бачыў гэта некалькі разоў на свае вочы, як брат на брата ўздымае гумовую нагайку, як б'е нагамі. І каб Хрыстос быў як чалавек на зямлі, гледзячы на такое, горка плакаў-бы.

Яшчэ, напэўна, трэба перажыць народу Беларусі гэтыя пакуты. Пакуты, калі ва ўсёй Эўропе людзі ўжо свабодныя. Чаму так ёсьць у Беларусі? Можа лепшы адказ дадуць палітыкі, аналітыкі, гісторыкі, псыхолягі. Я-ж маю свой адказ. У Беларусі будзе ўсё так, пакуль Маскве гэта падабацца будзе. Каб Маскве непатрэбны быў чалавек, празь якога ўсё благое робіцца, дык яго там даўно не было-б. Але-ж гэта ёсьць такая палітыка, якая не шануе чалавека ды дзеля якой чалавек зьяўляецца толькі нейкім прадметам.

Аднак, як гэта беларус беларуса, як брат брата можа зьбіваць на вуліцы? Як?! Ці-ж яны розум страцілі? Народ яшчэ асудзіць іх! За што зьбіваюць? За срэбнікі, якія ад Юды атрымоўваюць!.. Божа-ж мой, Божа! Уздымаюць на свайго бліжняга руку з нагайкай… Гэтага зразумець нельга.

Калі-небудзь Бог дасьць Беларусі свабоду, а такі час прыйдзе, бо ведама, як улада дыктатараў скончваецца. Мы павінныя маліцца за Беларусь ня толькі ў сьвяты, а штодзённа, павінныя зьвяртацца да Бога, каб спаганяў дурноту з галоваў тых, хто здольны на зьдзекі. Каб людзі мелі ўсьмешкі на тварах. Мы просім тут, каб Божа міласэрны надаў ласкі жыхарам у Беларусі, а мы будзем прасіць Яго аб гэтым у сваіх малітвах.

**Кс. Ян Шуткевіч**

## Я ПАТРАПІЎ У САМАЕ «ВУХА ГУРАГАНУ»…

### Зацемкі з нагоды 90-годзьдзя акадэміка Барыса Кіта

Яшчэ нейкіх 10 гадоў таму імя нашага знакамітага суайчыньніка Барыса Кіта было амаль што невядомае на той зямлі, дзе ён гадаваўся, атрымаў адукацыю, служэньню якой прысьвяціў усё сваё жыцьцё, — у Беларусі. Апошнімі гадамі, хай сабе й адноснай, незалежнасьці, калі Беларусь і беларусы пачалі абуджацца ад летаргічнага сну бяспамяцтва й непавагі да саміх сябе, — пра «грамадзяніна плянэты», сусьветнавядомага вучонага, акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі Барыса Кіта пачалі, нарэшце, пісаць і ў беларускай прэсе, а, самае галоўнае, была выдадзеная й перавыдадзеная грунтоўная біяграфічная кніга Лідзіі Савік «Космас Беларуса». Надыйшоў нібыта той час, калі, гаворачы словамі В. Кіпеля, «беларусы ва ўсім сьвеце могуць ганарыцца дасягненьнямі Барыса Кіта, колішняга выкладчыка матэматыкі Віленскай Беларускай Гімназіі, а пазьней прафэсара многіх унівэрсытэтаў на Захадзе, аднаго зь вядучых амэрыканскіх дасьледнікаў у ракетных палівах».

Напярэдадні новага тысячагодзьдзя нашая Бацькаўшчына залічыла ў плеяду сваіх выдатных сыноў і вучонага Барыса Кіта, каторы праславіў яе ўжо адным толькі тым, што ён першы разьлічыў прынцыпы выкарыстаньня вадкага вадароду ў якасьці паліва для ракетаў. Дзякуючы адкрыцьцям і распрацоўкам Барыса Кіта й сотняў іншых вучоных Захаду, напрыканцы XX ст. была пераможаная агрэсыўная супэрдзяржава СССР, шматлікія краіны Усходняй Эўропы вызваліліся ад камуністычнага прыгнёту й сталі на дэмакратычны шлях разьвіцьця, і сама Беларусь атрымала хоць якую незалежнасьць і рэальны шанец далучыцца да сям'і вольных эўрапэйскіх краінаў.

Безумоўна, пра жыцьцёвы лёс і грамадзкую ды навуковую дзейнасьць Барыса Кіта ў будучым будзе напісанае яшчэ не адно дасьледаваньне. Я-ж хачу дадаць жменю сваіх уласных зацемак пра «патрыярха беларускага руху» — так сам сябе называе Барыс Кіт, падкрэсьліваючы сваю прыналежнасьць да легендарнага часу волатаў беларускага руху: Івана й Антона Луцкевічаў, Вацлава Ластоўскага, Радаслава Астроўскага ды іншых.

У Франкфурт, старажытную сталіцу Сьвяшчэннай імпэрыі Карла Вялікага, я прыехаў напачатку лютага. Як і ў шмат каго зь беларусаў, каторыя наведвалі Барыса Кіта ў гэтым слаўным нямецкім горадзе, і мяне таксама не пакідала адчуваньне, што з засьнежанай Вільні я перанёсься ў красавік. Уразіла мора вечназялёных хмызоў і дрэваў перад утульнымі, акрытымі чырвонаю дахоўкаю камяніцамі. У нетрах зеляніны па-веснавому сьпявалі птушкі, сярод якіх пазнаў шпакоў. Пакуль дабіраліся да гатэлю, я зь цікавасьцю прыглядаўся да свайго надзвычайнага спадарожніка, дзівіўся, як і мае папярэднікі, вялікаму на 90-гадовы век запасу энэргіі ў ім, на бадзёрую хаду, на жывы сьветлы й нейкі ўсьмешлівы розум… Ва ўтульным гатэльчыку, дзе я й мая жонка мусілі спыніцца, Барыс Кіт выхапіў зь ейных рук валізку й лёгка падняўся па даволі такі стромых сходах на самы апошні паверх. Сапраўды, чалавек невычэрпнай жыцьцёвай энэргіі, чалавек з адыйшоўшага пакаленьня «магіканаў».

Жыве Барыс Уладзіміравіч сьціпла, нават па-спартанску аскетычна. Займае ў доме га-


*Працяг на старонцы 3*



Здымак Генадзя Жынковай

## *Мой погляд на* ЧАРНОБЫЛЬ

Слушна было напісанае ва ўлётках 96-га г., што ёсьць дзьве беларускія трагедыі – гэта Чарнобыль і Лукашэнка. Гэта сапраўды так, і тое, як ставіцца Лукашэнка да Чарнобыльскай праблемы, ёсьць злачынства супраць нацыі.

Практычна «дэ-факта» перамагла канцэпцыя маскоўскіх вучоных, супраць якой выступаў і БНФ, і Акадэмія навук нашай краіны. Усе разумеюць, што крамлёўская канцэпцыя распрацаваная без уліку нашых інтарэсаў. Аднак, дзякуючы намаганьням лукашэнкаўскага акружэньня, чарнобыльская зона нанова засяляецца, туды, напрыклад, масава высылаюцца «маладыя спэцыялісты», цьвет нацыі.

Тымчасам нашыя людзі, шмат што згубіўшы за апошнія гады, хочаць проста фізычна выжыць. Шмат ужо хто знаходзіцца на той мяжы, калі ў сем'ях пачынаюць галадаць і шмат хто, як жабрак, корпаецца ў баках са сьмецьцем. Ядуць усё й не задумваюцца пра экалёгію й пра Чарнобыль, каторы яшчэ адгукнецца ў будучых пакаленьнях.

Чарнобыльскай праблема аднак такой абыякавасьцю ня вырашыць. Яна застаецца й застанецца яшчэ доўга найгалоўнейшай нашай нацыянальнай праблемай і вырашаць яе давядзецца ўжо ў дэмакратычным грамадзтве.

«Чарнобыльскі шлях» быў заўсёды самай масавай акцыяй беларускай апазыцыі. І гэта непазьбежна. Бо тэма Чарнобыля ў нашым грамадзтве заўсёды зьвязвалася з апазыцыяй, з БНФ, у прыватнасьці. Гэта прысутнічае ў сьвядомасьці кожнага.

**Вячаслаў Сіўчык**

## Дзень Волі

шырака быў адзначаны шматлікімі беларускімі суполкамі Літвы, а таксама ў касьцёле Сьв. Барталамэя й школе. 25 сакавіка на сьвяткаваньні ў дамкох ТБК прысутнічалі прэзыдэнт ЗБС «Бацькаўшчына» Радзім Гарэцкі й вядомы гісторык Анатоль Грыцкевіч. Аднак найбольшыя ўрачыстасьці адбыліся 26 сакавіка. Перад крыжом, устаноўленым на падворку касьцёлу Сьв. Барталамэя, зранку быў праведзены мітынг-рэквіем, які адкрыў старшыня ТБМ Віленскага Краю Юры Гіль. Былі паднятыя два сьцягі, бел-чырвона-белы, і дзяржаўны літоўскі, запаленыя сьвечкі. З прамовамі выступілі Ю. Гіль, Хв. Нюнька. Ст. Зялёнка прачытаў свае патрыятычныя вершы. А. Старавойтаў прасьпяваў песьню-малітву на словы Я. Купалы. На сьвята быў запрошаны калектыў мастацкай самадзейнасьці «Рудамінка» зь Віленскага раёну. Потым, ужо ў касьцёле, адбылася сьвятая імша за Беларусь і ейны шматпакутны народ, якую адправіў кс. Ян Шуткевіч. Ён жа зьвярнуўся да прыхаджанаў з палымянай казаньню ў абарону Беларусі (стар. 1). З касьцёла прысутныя падаліся на каву ў Стары горад. Трэба адзначыць, што беларускі касьцёл паступова робіцца сапраўдным асяродкам беларушчыны.

**Юры Гіль**

## Урачыстая акадэмія

з нагоды Дня Волі адкрылася 26 сакавіка ў 15.00 у Доме настаўніка. Арганізатарам гэтай шматлюднай імпрэзы было ЗБГА Літвы. З трыбуны выступалі прэзыдэнт Згуртаваньня Л. Мурашка (гісторыя абвешчаньня незалежнай БНР), Г. Войцік (успаміны, як даўней сьвяткавалі 25 Сакавіка ў Вільні), віленскі мастак і паэт Ст. Зялёнка (патрыятычныя й лірычныя вершы). Аднак асабліва яскравай была прамова Міраславы Русак, якая закранула сумнавядомыя падзеі 25 сакавіка ў Менску. Пасьля акадэміі адбыўся канцэрт мастацкіх гуртоў.

27 сакавіка ў беларускай школцы з нагоды Дня Волі таксама адбыўся канцэрт, падчас якога выступілі запрошаныя на сьвята паэты Ст. Зялёнка й А. Мінкін.

**А. М.**

## 100-гадовы юбілей

нашага славутага мастака Пётры Сергіевіча будзе ўрачыста адзначацца ў Вільні. З такой ініцыятывай выступіла ЗБГА Літвы. Праведзеныя перамовы з Дырэктарам Літоўскага нацыянальнага музэю сп. Р. Будрысам. Ён гатовы перадаць карціны П. Сергіевіча для выставы з фондаў музэю. Арганізацыйны камітэт зьвяртаецца да ўсіх, хто ведаў мастака, хто мае ягоныя карціны або асабістыя рэчы, з просьбай дапамагчы ў арганізацыі экспазыцыі. Газэта «Рунь» будзе радая надрукаваць вашыя ўспаміны пра П. Сергіевіча.

**Сяржук Вітушка**

## Адкрыты ліст

### да старшыні Таварыства Беларускай Культуры Літвы сп. Х. Нюнькі

***Вільня 26. 02. 2000***

Хведар Якубавіч!

Як Вам вядома, намаганьнямі ТБШ, Беларускай школы імя Ф. Скарыны ды іншых беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Вільні мае быць адчыненая Беларуская нядзельная школка. Лягічна, што памяшканьні для школы павінныя знайсьціся ў дамках па вул Жыгіманту, 12, якія належылі й належаць да беларусаў, тым больш што пад гэтым адрасам, і не без Вашага намаганьня, як члена ТБШ, было зарэгістраванае Таварыства беларускай школы.

Вы разам зь іншымі беларускімі грамадзкімі дзеячамі Вільні нямала прычыніліся да адкрыцьця Беларускай сярэдняй школы. А на паседжаньні Згуртаваньня беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Літве 5 лютага 1997 г. у памяшканьні беларускай школы (прысутнічалі: Л. Мурашка, Р. Вайніцкі, Г. Сівалава, С. Душэўскі, А. Анішчык, Л. Кароль, Х. Нюнька, Л. Слесарава, В. Стэх, Л. Плыгаўка, В. Жлутка) было пастаноўлена ўсімі сіламі захаваць, пашырыць дзейнасьць адзінай беларускай школы, за што прагаласавалі ўсе прысутныя, разам з Вамі... На жаль, пасьля гэтага школа не адчула з Вашага боку ніяк ае дапамогі.

Цяпер, калі канкрэтна паўстала пытаньне адкрыцьця Беларускай нядзельнай школы, Вы не згаджаецеся выдзеліць кут для ейнай дзейнасьці ў дамках, якія належаць да ўсіх беларусаў Літвы (канкрэтна — Вільні). Нам вядома, што дом па адрасу Жыгіманту, 12-3 у 1998 г. быў прыватазаваны Таварыствам, якое Вы ўзначальваеце. Але-ж там таксама зарэгістраванае й ТБШ, што ўваходзіць у склад ЗБГА у Літве. Таму Таварыства беларускай школы зьвярнулася ва Ўправу Згуртаваньня з просьбаю пастарацца перад Вамі ў адкрыцьці нядзельнай школкі паводле мейсца ягонай рэгістрацыі.

Як нам уяўляецца, справа адкрыцьця Беларускай нядзельнай школкі — гэта справа гонару ўсіх беларусаў Вільні. Таму ад імя Рады Згуртаваньня прашу выдзеліць частку памяшканьня будынку па Жыгіманту, 12-3 пад дзейнасьць Беларускай нядзельнай школкі.

Буду ўдзячны за адказ!

*Прэзыдэнт Згуртаваньня Беларускіх Грамадзкіх Арганізацый у Літве* **Л. Мурашка**

Інфармацыя пра набыцьцё сымбалічанага **грамадзянства БНР:** **72 55 95 або 61 65 32.**

Беларуская
**група дзяцей**
дашкольнага ўзросту
на базе
дзіцячага садка N151.
**Justiniškių 45.**
Інфармацыя: **42 90 75,**
Галіна Баран.



КНІГІ ВЫДАВЕЦТВА
**РУНЬ:**

**Алесь Алехнік.** «Пад бел-чырвона-белым (Memento patriam). Вільня, 1999. Кошт зь перасылкай — $ 8.

**Сымон Шаўцоў.** «Мая Адысея». Вільня, 1999. Кошт зь перасылкай — $ 5.

**Галіна Войцік.** «Лявон Луцкевіч» (сэрыя «Партрэты віленчукоў»). Вільня, 1999. Кошт зь перасылкай — $ 3.

**Лявон Луцкевіч, Галіна Войцік.** «Аляксандар Коўш» (сэрыя «Партрэты Віленчукоў»). Вільня, 1999. Кошт зь перасылкай — $ 3.

**Галіна Войцік.** «Зоська Верас» (сэрыя «Партрэты віленчукоў»). Вільня, 1999. Кошт зь перасылкай — $ 3.

**Юры Весялкоўскі.** «Каляды на чужыне». Вільня, 1999. Кошт зь перасылкай — $10.

Грошы найлепш дасылаць імянным чэкам Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*) або Алегу Мінкіну (*Oleg Minkin*).



**Будаўнічая, рамонтныя, апрацовачныя, рэстаўрацыйныя работы.**

*Тэл: (+ 3702) 61 92 20, (+ 3702) 41 21 96, (+ 3702) 288- 58 145.*

РУНЬ
НАША НІВА
Беларускія кнігі
Разнастайная тэматыка, ніжія кошты.
**Кнігарня «Draugystė»**
***Gedimino pr. 2***
Даведкі:
***61-62-24, 62-50-88***
***e-mail: krajavid@kraj.org***
***http://www.kraj.org***




***Мойпогляднa***

# Дзень Волі

Ад нядаўняга часу дзень 25 Сакавіка пачалі называць Днём Волі. На мой погляд – гэта вельмі трапны назоў, намнога лепшы, чым Дзень Незалежнасьці. Тэрмін «незалежнасьць» увесь час нагадвае пра «залежнасьць». Сёньня, калі край забраны, лёзунг незалежнасьці актуальны. Але вось заўтра, калі даможымся свабоды, навошта кожнага разу ў сьвяточны дзень нагадваць, што калісь былі залежныя?

Безумоўна Дзень Волі лепш. Дарэчы, слова «воля» мае ў нас два значэньні.

Воля – гэта свабода, альбо тая самая незалежнасьць: зьняволены, выйшаў на волю, вальнадумства, за нашу й вашу волю...

Воля – гэта ўлада, сіла, энэргія, загад, жаданьне: Божая воля, мая воля, валявы чалавек, бязвольны, вольнаму волю...

Супадзеньне двух значэньняў гэтага слова невыпадковае. Паміж імі глыбокая ўнутраная сувязь. Хто мае волю, заўсёды здабудзе сабе свабоду. Чалавек бязвольны рана ці позна патрапіць у залежнасьць.

25 Сакавіка 1918 г. палітычная эліта беларускага народу выявіла волю – перамогшы страхі, сумненьні, заявіла: «Ад сёньня будзем будаваць самастойную, вольную дзяржаву!» Выяўленьне волі было й будзе актуальным заўсёды.

Я жадаю землякам-беларусам, каб у нас Дзень Волі быў ня толькі 25 Сакавіка. Хай Дзень Волі будзе кожнага дня!

**Сяржук Вітушка**

# Я ПАТРАПІЎ У САМАЕ «ВУХА ГУРАГАНУ»...

Працяг са старонкі 1

тэльнага тыпу адзін пакой, каторы параўноўвае з «бочкай Дыягена». Праўда, пакой прасторны, сонечны. За перагародкаю — імправізаваная кухня. Відавочна, што гаспадар з матар'яльнага боку жыцьця культу ня робіць.

Гаворку спадар Кіт вядзе лёгка, перасыпае ўспаміны дасьціпнымі жартамі. Адчуваецца



вельмі крытычнае стаўленьне да сьвету й да сябе самога. Звычайна, калі размаўляеш зь людзьмі такога веку, дык чакаеш нудлівай споведзі без пачатку й канца, а тут —нязмушаная размова пра ўсё на сьвеце, надзвычайнае пачуцьцё такту да суразмоўніка, нават бобоязьнь стаміць яго «бамбёжкамі». Зь іншага боку, Барыс Уладзіміравіч не шкадуе ні здароўя, ні часу, каб як мага больш даць зьвестак пра сябе й свой час, бо навошта, сапраўды, ехаць да «патрыярха», калі ня дзеля гэтага?

Паколькі ў выдавецтве «Руні» рыхтуецца да друку першая кніга пра гісторыю Віленскай Беларускай Гімназіі, дык, натуральна, шмат якія нашыя гутаркі круціліся вакол яе... Неяк дзіўна было сядзець побач з жывым дырэктарам нашай слыннай гімназіі. У гэтым было штось містычнае. Сумяшчэньне эпохаў.

Мой суразмоўнік цудоўны апавядальнік і выдатны дэкляматар вершаў. Часам раскрываецца зусім нечаканымі гранямі. Напрыклад: «Мой бацька быў вельмі добры скрыпач. Я й сам граў на скрыпцы. А мой брат быў выдатны гарманісты, прыроджаны музыка». Праз тры дні знаёмства зразумеў, што да музыкі Барыс Уладзіміравіч ставіцца зь вялікім сантымэнтам. Не аднаго разу вароча́ўся ва ўспамінах да аркестру й аркестрантаў ВБГ. З захапленьнем распавядаў, якім выдатным музыкам і настаўнікам музыкі быў выкладчык гімназіі Аляксандар Егер... Што-ж, спалучэньне музыкі й матэматыкі было ўласцівае шмат каму зь вялікіх вучоных, бо гэтыя непадобныя мастацтвы лучыць тое, што яны абое ёсьць найдасканалейшыя стварэньні чалавечага генію.

Калі праслухоўваў запісы на кшых размоваў, дык зьдзівіўся дыяпазону інтарэсаў і зацікаўленьняў Барыса Уладзіміравіча. Мяне пераважна цікавіла гісторыя міжваеннай Польшчы, Вільні, Віленскай Беларускай Гімназіі, дырэктарам і шматгадовым настаўнікам каторай быў Барыс Кіт. Аднак у нашыя «мэтанакіраваныя гутаркі» неяк незаўважна ўпляталася «старажытная Троя», «Вясна народаў», параўнаньні з раманаў Оруэла й Купэра, цытаты з Вальтэра, Канта, Бярдзяева, Леніна, Сталіна, выказваньні знакамітых вучоных... Я гутарыў ня толькі з «хадзячым сьведкам веку», але й з «хадзячай энцыклапэдыяй».

Шырокі таксама й спэктар прафэсыйных зацікаўленьняў акадэміка Барыса Кіта. У свойчас ён атрымаў грунтоўную падрыхтоўку ня толькі ў галіне матэматыкі, хіміі й фізыкі, а таксама й мэдыцыны. Яшчэ ў 43-ім пачаў вучыцца ў Магілеўскім мэдычным інстытуце, каторы тады пераехаў у Нававілейку (Новая Вільня), а ў Нямеччыне скончыў тры курсы Нямецкага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Людвіка Максымільяна (Мюнхен). Распавядае: «Яшчэ калі вучыўся ў Сьцяпанава, рэктара Магілеўскага мэдычнага інстытуту, дык нам на лекцыю прынесьлі адрэзаную чорную нагу. Антонаў агонь вывучалі. Гэта мяне трошкі адбіла ад мэдыцыны...» Дарэчы, Барыс Кіт першы, хто распавёў пра паваенны лёс Сьцяпанава: «Дзякуючы мне, ён стаўся прэзыдэнтам Беларуска-Амэрыканскага Зьедзіночаньня ў Саўт-Рывэры. А працаваў пад Нью Ёркам, у клініцы сухотнікаў. Праўда, калі амэрыканцы прыдумалі цудоўную таблетку ад сухотаў і яна вымела гэтую хваробу з Амэрыкі, Сьцяпанаў згубіў працу, ня мог здаць экзамену, бо стары ўжо быў. Пазьней ён стаўся сьветаром...»

Напрацягу трох дзён нашага сумоўя, я, зразумела, ня мог зьведаць усю спэцыфіку ягонага сьветапогляду. Адно толькі ўражвалі незвычайны аптымізм ды шырыня. Аднак-жа ў філязофскіх і крыцьцёвых выказваньнях Барыса Ўладзіміравіча, як соля, праходзіла думка пра найважнейшую ролю ў гісторыі чалавецтва такіх філязофскіх паняцьцяў, як «асоба» й «выпадак». Узгаданых на марксізме-ленінізме такое перакананьне зьбівае з тропу сваёй нязвыкласьцю. Нас-жа шмат гадоў вучылі супрацьлеглага, маўляў, сьветам кіруюць «масы», «прычыннасьць», «неабходнасьць» і пад. Ды калі ўяўляў, якім «строгім», «прычынным» ды «лягічным» розумам валодае мой суразмоўнік, прыхільнік «выпадковасьці», — ахвота пярэчыць неяк сама сабой выпаралася. «Найвялікшы ў сьвеце матэматык ёсьць Бог», — з прыхаванай усьмешкай часта паўтарае Барыс Кіт. Зрэшты, калі думаеш пра пакручасты лёс аўтара гэтага выказваньня, дык сапраўды пачынаеш верыць, што «выпадак кіруе сьветам», а «адзінка — найважнейшая клетка гісторыі». Так сьцьвярджае Барыс Кіт.

Увогуле, жыцьцёвы прынцып Барыса Кіта — шчыра й бескарысьліва дапамагаць беларусам, да якой-бы рэлігійнай канфэсіі яны не належылі й якіх-бы палітычных поглядаў не трымаліся. І ня толькі беларусам. Пры гэтым сам Барыс Уладзіміравіч заўсёды імкнуўся быць нэўтральным. Распавядаючы, як з рызыкай для ўласнага жыцьця выратаваў ад гітлераўцаў партызана Калачова, а ў Маладэчне праз школьнага інспэктара вырваў зь лягеру сьмертнікаў вядомага расейскага музыку Камароўскага, — падкрэсьлівае: «Я ёсьць чалавек. Я памагаў усім».

Зь бясконцай павагай і нават захапленьнем, ставіцца Барыс Уладзіміравіч да яскравай і, адначасна, найбольш супярэчлівай сярод нашых вялікіх адраджэнцаў асобы Радаслава Астроўскага, каторы быў яму старэйшым таварышам, настаўнікам, узорам для пераймання. Сяброўства й кантакты з выдатным дзеячам беларускага руху не аднаго разу дапамагалі Барысу Кіту ў жыцьці, а нават і ратавалі ад сьмерці.

У Барысе Уладзіміравічы вельмі арганічна спалучаецца беларускасьць і амэрыканскасьць. Ён любіць Амэрыку, краіну, якая прытуліла яго, дала працу, дазволіла на поўніцу разгарнуць і зрэалізаваць прыродныя здольнасьці. Заўсёды падкрэсьлівае, што «Амэрыка змагаецца не за панаваньне над сьветам, а за дэмакратычную садружнасьць». За любоўю, як і ў кожнага энцыклапэдыста, стаіць глыбокія веды амэрыканскай гісторыі, навукі, культуры, літаратуры. Яны — адна з улюбёных тэмаў роспавядаў Барыса Кіта.

Пра работу «хэмікам» у Амэрыцы: «Я сем гадоў працаваў хэмікам. І дайшоў самых найбольшых асягненьняў у двух фірмах. Я такі чалавек, які займаўся выкрыцьцём хэмічных сакрэтаў іншых фабрыкаў. Да мяне часта падыходзіў сам прэзыдэнт фірмы, прыносіў парашок, лепшы, чым выпускалі мы, і прасіў зрабіць дакладную формулю: «Даю табе два тыдні!» І я мусіў за два тыдні знайсьці формулю «невядомага белага парашка». Гэта называецца «індэтыфікацыя невядомых прадуктаў» і ёсьць самае вышэйшае асягненьне хэміка. А спачатку я быў простым «кантрольным хэмікам», г. зн. кантраляваў прадукцыю. Зь «індэтыфікацыі невядомых прадуктаў» я пайшоў у астранаўтыку. Там мне адразу далі ракетнае паліва, вадкі вадарод. І гэта ў найважнейшай астранаўтычнай амэрыканскай фірме «Rockwell International»! Вялікае для мяне шанцаваньне. Я патрапіў туды, дзякуючы прафэсару Навапольскаму...»

У часе «халоднай вайны» камуністычны СССР і дэмакратычныя ЗША вялі заўзятую барацьбу за космас, а, фактычна, вырашаўся лёс усяго сьвету, па якім шляху разьвіцьця ён пойдзе. «Камуністы маглі-б завалодаць сьветам, калі-б не Амэрыка, — гаворыць Барыс Уладзіміравіч. — Дзеля змаганьня з СССР за космас амэрыканскі ўрад выдучыў 100 млрд. даляраў. 500 тыс. навукоўцаў і інжынераў адначасна распрацоўвала 30 тыс. разнастайных тэмаў! І галоўная тэма была нашая. Так быў зроблены праект «Падарожжа на Месяц»». Падсумоўваючы сказанае, Барыс Кіт заўважае: «Я патрапіў у самае «вуха гурагану»!» Трапнае параўнаньне, але спачатку майму беларускаму вуху яно здаецца нязвыклым. Прыгадваю, што на абшарах Амэрыкі «гураганы» й разбуральныя «сьмерчы» ёсьць зьява звыклая. Думаю таксама, што ўсё доўгае жыцьцё Барыса Уладзіміравіча Кіта пранеслася ў такім гуране, і, дзякуй Богу, яму ўдалося ня толькі ацалець у самым ягоным «вуху», — а й захаваць надзвычайную чалавечнасьць і аптымізм, стацца слаўтым вучоным, праславіць нашую шматпакутную Бацькаўшчыну.

**А. М.**

# Пра новую беларускую радыёстанцыю «Балтыйскія хвалі»

*распавядае сп. Рымантас Плейкіс*



*У Вільні з Новага году распачала вяшчаньне новая беларуская радыёстанцыя «Балтыйскія хвалі». З адным зь ейных заснавальнікаў і галоўным каардынатарам **Рымантасам Плейкісом**, каторы ў адначасьсе зьяўляецца й старастам «фракцыі памяркоўных кансэрватараў» у літоўскім сойме, гутарыў карэспандэнт «Руні» Алесь Трусаў.*

**– Раскажыце трохі пра сябе...**

– Я нарадзіўся ў 1957 г. у Вільні. Хоць горад майго дзяцінства – Друскенікі, дзе я й закончыў сярэднюю школу. Скончыўшы катэдру журналістыкі Віленскага ўнівэрсытэту, некалькі гадоў выкладаў на той самай катэдры розныя прадметы па радыё й радыёвяшчанні. Маё хобі таксама зьвязанае з радыё: радыёманіторынг службовых і вяшчальных радыёстанцыяў, давялося працаваць карэспандэнтам і на вяшчаньні Літоўскага радыё, супрацоўнічаць пры падрыхтоўкі іншых перадачаў. З 1989 г. я ўдзельнічаю ў розных праектах незалежнага недзяржаўнага радыёвяшчаньня. Самыя вядомыя праекты: «М-1» (яно й дагэтуль жыве, я там быў галоўным рэдактарам), «Радыёцэнтрас» (галоўны рэдактар), «Сьпірытус моментс» (джазавая радыёстанцыя ў Вільні) ды інш. Так што маё прафэсыйнае жыцьцё цалкам зьвязанае з радыёвяшчаньнем.

**– Калі зарадзілася думка аб стварэньні беларускага радыё?**

– У жніўні 1998 г. нарадзіўся праект аб стварэньні радыёвяшчаньня на бел. мове. Пасьля паўтары гады нялёгкай працы нарадзілася радыёстацыя з паэтычнай назвай «Балтыйскія хвалі». Сутнасьць нашага праекту ў тым, што нашая радыёстанцыя – гэта аб'яднаны канал радыёвяшчаньня на бел. мове. З пункту гледжаньня тэхнічнага й юрыдычнага «Балтыйскія хвалі» арыентуюцца перадусім на мясцовую беларускую дыяспару Літвы, якая налічвае да 60 тыс. чалавек. Гэта сур'ёзная этнічная група ў нашай краіне, якая, на мой погляд, мала ўсё-ж яшчэ мае сваіх СМІ.

**– Але-ж «Балтыйскія хвалі» слухаюць і ў Беларусі...**

– Так, сапраўды. Гэта тлумачыцца тым, што Вільня знаходзіцца геаграфічна вельмі блізка ад Беларусі. Нашыя прагрмы добра чутныя і ў суседняй краіне. Адна з нашых мэтаў як мага лепш інфармаваць пра

Працяг на старонцы 8

Уладзімір Крукоўскі

# ШАГРЭНЕВАЯ СКУРА

## З нататніка Папялушкі

Чаму раптам «Шагрэневая скура»? Прыгадаем разам сюжэт славутага рамана французскага клясыка Анорэ дэ Бальзака, катором зачытвалася ў 30-ых гг. XIX ст. уся адукаваная Эўропа. Малады чалавек, Рафаэль дэ Валянтэн, атрымлівае ад старога багатага антыквара кавалак чароўнай скуры анагра (асла) асаблівай, шагрэневай апрацоўкі. Скура – усходняга паходжаньня. На ёй – пячатка Салямона, г. зн. пяцікутная зорка, і таямнічы надпіс: «Жадай – і жаданьні твае будуць выкананыя. Але сувымярай свае жаданьні са сваім жыцьцём. Яно – тут. Пры кожным тваім жаданьні я буду скарачацца, як твае дні». Натхнёны першым сказам надпісу баль-закаўскі Рафаэль загуляў на ўсю катушку. Не было распусты, якой-бы ён не пакаштаваў, не было подласьці, якую-б ён ня зьдзейсьніў, не было паскудзтва, на якое-б ён не пайшоў. Расла колькасьць пакрыўджаных ім, скалечаных і зьнявечаных лёсаў і жыцьцяў, а яму – хоць-бы што. Толькі... толькі скура на вачах памяншалася, курчылася й ссыхалася.

Зірніце ўважліва на ўсход. Ужо 73 гады там разгортваецца й набірае тэмпаў бальзакаўскі сюжэт геапалітычнага маштабу. Малады, самаўпэўнены, малаадукаваны й нахабны расейскі «Рафаэль з партбілетам» атрымаў у 1917 г. ад старога, зьнямоглага царызму спадчыну – гіганцкую асьліную скуру памерам 1/6 зямной цьвердзі. Атрымаў фантастычныя багацьці й неабмяжаваныя магчымасьці, велізарную моц і гарантыю непакаранасьці. І загуляў, упэўнены, што хопіць і яму, і дзецям, і ўнукам. І не было подласьці й злачынства, ад падману да гвалту й забойства, якога-б ён ня зьдзейсьніў напрацягу жыцьця ажно трох пакаленьняў. ГУЛАГ і калектывізацыя, аншлюс Прыбалтыкі, Заходніх Беларусі і Украіны, спойваньне й вынішчэньне малых народаў, гвалт над прыродай і марнаваньне багацьцяў, татальнае зьнішчэньне рэлігіяў, нацыянальных культураў і прымусовая русыфікацыя, – няма канца гэтаму злавеснаму сьпісу. Толькі... толькі скура пачала раптам скарачацца.

Нацыяналізм – вось жупел, якім нас, беларусаў, палохаюць і шантажуюць, правакуюць і тэрарызуюць нашыя суседзі і з усходу, і з заходу напрацягу ўсяго XX ст. І ня толькі суседзі, але і ўласныя выраджэнцы й пярэваратні пры ўладзе. Па сёньняшні дзень на неабсяжных тэрыторыях СНД гэты тэрмін злучае ў сабе й лаянку, і абвінавачаньне, і нават прысуд. У сьвеце-ж цывілізаваным – гэта проста сынонім патрыятызму, хай нават з прыстаўкай «звыш» ці «супэр». І нікому ён там не замінае, ні левым, ні правым, не перашкаджае зьмешаным шлюбам ці вольнаму рынку. Гэта проста форма этнічнай самаіндэтыфікацыі. Нацыяналіст у пабытовым разуменьні – гэта чалавек, які любіць сваю маці больш, чым родную цётку, значна больш, чым суседку й непараўнальна больш, чым выпадковую знаёмую. Радыкал-нацыяналіст – той зусім нікога ня любіць, акрамя маці. Ці-ж такі ўжо гэта вялікі грэх або дэфэкт? І вось праз гэтую любоў нашыя дзяды й бацькі, браты й сёстры гінулі ў шматлікіх Курапатах, гнілі ў лягерах, ахвяраваліся й ахвяруюцца здароўем і кар'ерай, шальмуюцца й падлягаюць астракізму, ідуць пад дубінкі й за краты.

Кожную імпэрыю сьвету напатkaў адзін лёс, адзін канец: і старажытную Рымскую, і Асманскую, і Брытанскую дый усе астатнія. Не пазьбегла гэтага й Расейская, якую бальшавікі, перафарбаваўшы ў чырвоны колер, меркавалі зрабіць сусьветнай (гл. Дэкларацыю 30 сьнежня 1922 г. да ўтварэньня СССР, дзе гаворыцца пра «большой шаг к мировой социалистической советской республике»). Некалькі гадоў таму сумнавядомы заежджы філёзаф В. Акулаў напісаў, што існуюць імпэры дрэнныя, накшталт Брытанскай ці Рымскай, і добрыя. (Вы правільна здагадаліся – Расейская). Невядома толькі, што рабіць з хрэстаматыйным акрэсьленьнем «турма народаў» ці «жандар Эўропы». Працытаваў філёзаф дзеля падтрымкі свайго тэзісу такога самага сумнавядомага Івана Саланевіча, беларуса паводле нараджэньня ды шавініста згодна псыхалёгіі. Той калісьці ў адной са сваіх кніжак сцьвярджаў, што «на базе Империи Российской никто из русских не заработал ничего. Ни копейки». Вось так. А як-жа тады «богатства России будут прирастать Сибирью»? Яны й прырасталі, а карэннае насельніцтва гінула, вымірала, выганялася нахабным «Рафаэлем» у лясы й тундры, у балаты, у рэзэрвацыі. Пра няшчасных нганасанаў ці ітэльмэнаў, вепсаў ці юкагіраў, каторых на сьвеце засталося пару сотняў, ня кожны чытач нават чуў. А як-жа ўральскія самацьветы ды каштоўныя мэталы? На Ўрале-ж, як і ў Сыбіры, таксама жыло карэннае насельніцтва да зьяўленьня ўсяляkіх «старэйшых братоў», Дзямідавых ды Строганавых. Можна згадаць і азіяцкую бавоўну, і башкірскую ды каўказкую нафту, і якуцкае золата, і ўкраінскі вугаль. У XV ст. да Масквы сілаю быў далучаны Ноўгарад і Пскоў, Цьвер і Вятка. У XVI – захопленыя Казанскае, Астраханскае, Сыбірскае ханствы, У XVII –Смаленшчына і Ўкраіна, у XVIII – Беларусь і Літва, Валынь і Крым, Курляндыя й Казахстан. Напачатку XIX ст. такі самы лёс напаткаў Грузію й Фінляндыю, Каралеўства Польскае, Арменію й Азэрбайджан, «покорён», нарэшце, Каўказ. Расла, расьцягвалася шагрэневая скура.

Дарэчы, пара перагледзець устойлівы стэрэатып «старэйшага брата». Па-першае, ён проста большы памерамі й дужэйшы фізычна. Па-другое, усе славянскія дзяржавы маюць жаночыя ймёны, у адрозьненьні ад азіяцкіх, афрыканскіх ці амэрыканскіх. Заўсёды нашая ўсходняя суседка ўяўлялася мне мажной кабетай, крыклівай, лянівай і неахайнай, аматаркай выпіць чарку й добра пад'есьці, пасьпяваць ды паскакаць. Калі прымеркаваць усходнеславянскай троіцы (Расея, Украіна, Беларусь) клясычныя казачныя сюжэты пра Папялушку, трох сясьцёр ці трох дачок, дык наша доля – якраз доля меншай, сьціплай ды працавітай, і, тым ня менш, зацюканай і абражанай. Але ўспомніце, чым канчаюцца гэтыя сюжэты?

Дзьвюхгаловая візантыйская пачвара, толькі-толькі вылупіўшыся з маскоўскага яйка, пачала энэргічна падграбаць пад сябе бліжэйшую радню, потым сваякоў, а пад канец і суседзяў. За моры й акіяны не плавала, пустэльні й джунглі не асвойвала. Не ваявала суседка нашая з морам, як галяндцы, за кожны шматок зямлі, не змагалася з пушчамі ды балотамі, як беларусы. Але ня толькі тэрытарыяльна, ня толькі фізычна павялічвалася-прырастала шагрэневая скура. Вось што пісаў расейскі гісторык Бацюшкаў з нагоды захопу Смаленшчыны ў XVII ст.: «Кроме земельных приобретений Россия почерпнула в этой войне и нравственные и умственные силы для своего возрождения привлечением к себе лучших западно-русских деятелей и литературными заимствованиями у белорусов и поляков... положивших начало светской русской литературе, переводной и подражательной». Бяда й няшчасьце нацы, калі ёй не давялося ў гістарычным мінулым дастаткова доўга паварыцца ва ўласным этнічным катле. Бо ў выніку ўсяго вышэйзгаданага –экстэнсыўны развой, сьледам – застойныя зьявы, навуковае, культурнае й тэхнічнае адставаньне.

Не магу не працытаваць куміра расейскіх дый нашых пэнсіянэраў У. Леніна: «Никто не повинен в том, что он родился рабом: но раб, который не только чуждается стремления к своей свободе, но и приукрашает своё рабство (например, называет удушение Польши, Украины и т. д. «защитой отечества» великороссов), –такой раб есть вызывающий законное чувство негодавания, презрения и омерзения холуй и хам». Вы скажаце, калі тое было? Але расшыфруйма ленінскае «и т. д.». Гэта й Карэя, і Ўетнам, Вэнгрыя ды Чэхаславаччына, гэта Аўганістан, сапёрныя рыдлёўкі ў Тбілісі, гэта сёньняшняя Чачня. Халуй і хам ня толькі «оправдывает и приукрашает», ён дзейнічае, жорстка й бязьлітасна. Асьліная скура, тымчасам, курчыцца.

Маладая дыктарка тэлебачаньня са шкадаваньнем разважае пра страчаныя «исконно-русские земли» на Алясцы. Мітрапаліт Каломенскі й Юр'еўскі пра тое самае: «Мы своё отечество делали с запасцем до самой Аляски». Правінцыйны расейскі бацюшка спраўляе паніхіду па воінах, «положивших жизнь за отечество в Афганистане». Галоўны хрысьціянін усяе Русі, як у сярэднявеччы, багаслаўляе войскі на вайну ў Чачні. Што тут можна дадаць? Ізноў рэанімуецца старая імпэрская трыяда: «православие, самодержавие и народность». У расейска-савецкай гісторыі ідэалёгія клясавай выключнасьці цесна перапляталася зь ідэалёгіяй выключнасьці расавай і веравызнаўчай: найлепшая кляса – пралетарыят, найлепшы ў сьвеце чалавек – праваслаўны рускі. Адсюль – ксэнафобія, як нацыянальная рыса. «Чуркі», хахлы», «бульбашы», «пшэкі», цяпер яшчэ й «лица кавказской национальности», – гэта не саманазовы, гэта – рускія пра нас. Тое, што СССР ляснуўся ў адзін дзень, што Талін і Рыга, Ялта й Сухумі, крымскія ды балтыйскія курорты й пляжы ў адзін дзень зрабіліся замежжам, – прывяло рускіх у стан шоку, ад якога яны ня могуць пазбавіцца ўжо дзесяць гадоў. Аказваецца, іх ня любяць. А яны-ж верылі, што нас «навеки сплотила Великая Русь». Ну, хай там азіяты, мусульмане, іншаверцы – дык-жа зьбеглі з магутных абдымкаў хрысьціяне, і, што ўжо зусім незразумела – праваслаўныя (Украіна, Беларусь, Малдова, Грузія). Традыцыйная ксэнафобія, плюс сьвежая крыўда, плюс барбардыроўка абыва-цельскіх мозгаў расейскімі СМІ, – у выніку татальны імпэрскі сындром, як пандэмія, ва ўсіх, ад прыбіральшчы-цы да акадэміка.


Расейская імпэрыя. 1900 г.


СССР. 1950 г.


Расейская Фэдэрацыя. 2000 г.


Прагноз на XXI ст.

Лёгіка падзеяў падказвае, што ў бліжэйшыя дзесяцігодзьдзі вырвецца зь няволі Каўказ, зьбягуць іншаверцы (татары, башкіры, бураты, хакасы й тувінцы, калмыкі й каракалпакі). Надыйдзе чарод Паволжа, і ўтворыцца вялізная дзюрка на скуры – паволскі анклаў (Татарстан, Башкартастан, Чувашыя, Мардовія, Удмурцыя, Мары Эл). Потым, хутчэй за ўсё, Якуція Саха, на зямлі й пад зямлёй каторай столькі незьлічоных багацьцяў, што за іх можна купіць усё, ад ананасаў да атамнай бомбы. І працэс гэты будзе працягвацца, бо ён непазьбежны, як зьмена пораў году, як прылівы й адлівы, як вечны калаўрот зямлі. У XXI ст. Расея мусіць скурчыцца да сваіх этнічных памераў, узору 1533 г., і, дай ёй Бог, праіснаваць хоць-бы ў такім кшталце «многая лета». Усё-ж такі, радня.

А што-ж бальзакаўскі Рафаэль? Калі ад чароўнай скуры застаўся кавалачак велічынёю з дубовы ліст, ён запанікаваў, зьбег у глухую правінцыю, пасяліўся ў сьціплай сялянскай сям'і й пачаў жыць простым вясковым жыцьцём, кожны дзень са страхам пазіраючы на шагрэневы шматок: колькі яму яшчэ засталося?

*1994 г. — 2000 г.*

# Лінгвацыд або выцісьненьне мовы

**10. Скарачэньне накладаў выданьняў**

Адным з галоўных накірункаў ажыцьцяўленьня лінгвацыду была й застаецца барацьба з друкаваным словам. У 1839 г. мітрапаліт Язэп Сямашка (зь ініцыятывы шэфа жандараў Бэкендорфа) касуе Берасьцейскую рэлігійную вунію. Зь ягонае ўхвалы распачынаецца масавае спаленьне рукапісаў і кнігаў уніяцкіх цэркваў і кляштараў, значная колькасьць якіх была на беларускай мове. Гэтая цемрашальская акцыя доўжылася з 1841 ажно па 1859 г. Паводле сьведчаньня Р. Зямкевіча: «Сямашка паліў на дварыы свайго палацу (у Жыровічах — *В. Г.*) уніяцкія беларускія абразы, гравюры й кніжкі, якія цяпер (Р. Зямкевіч пісаў гэта ў 1919 г. — *В. Г.*) бібліёграфы ня могуць знайсьці (лік зьнішчаных старабеларускіх кніжак, цяпер нікому невядомых, апрача загалоўка, перавышае пяць тысячаў экзэмпляраў)». Л. Лыч лічыць, што «нядобрую ролю зьнішчэньня ўніяцкіх кніг узяла на сябе Полацкая духоўная кансысторыя». У яе з канца 30-ых гг. XIX ст. звозіліся ўніяцкія кнігі з усяе Беларускае эпархіі. Са зьвезеных кніжак ад агню маглі ацалець толькі тыя, каторыя выклікалі да сябе цікавасьць з боку тых архірэяў, што іх спальвалі.

У XX ст. няўхільна памяншаліся наклады беларускамоўных выданьняў ад 68,5% ад ліку ўсіх выданьняў у 1925 г. да 7% — у 1987 г. У 1995 г. выданьняў на бел. мове ў Рэспубліцы Беларусь было 12,5%, а ў 1997 ужо 5,5%, г. зн. менш, чым у апошнія гады ў Савецкай Беларусі. Гадавы наклад беларускамоўных газэтаў у 1986 г. складаў 31,5%, у 1995 — 5,7%, у 1997 — 5,6%. Апошнія дадзеныя ўзятыя мной з афіцыйнага даведніка «Республика Беларусь в цифрах», выдадзенага на адзіна «великих» мовах сьвету — рускай і ангельскай.

Ня трэба цешыцца, што пры савецкай уладзе былі вялікія наклады беларускамоўных выданьняў. Тое, што друкавалася беларускаю моваю, уяўляла сабою галоўным чынам пераклады клясыкаў марксізму-ленінізму, верных ленінцаў, агітацыйна-прапагандысцкую ды сацрэалістычную літаратуру. Гэтая друкаваная прадукцыя адно толькі кідала цень на мову, якой яна друкавалася. Расейскі эмігранцкі філёзаф Георгі Фядотаў пісаў: «Дзясяткамі моваў Саюзу павінны былі друкавацца толькі зборы твораў Маркса й Леніна. Гэта было дасягнутае з одамі Сталіна ў дадатак. Дзеля гэтага трэба было задушыць нацыянальныя літаратуры (асабліва ўкраінскую й цюркскую), зьнішчыўшы значную частку іхняй інтэлігенцыі».

Ці палепшылася нешта ў гэтай галіне пасьля абвешчаньня Беларусьсю незалежнасьці? У першыя гады — так. Пачынаючы з 1994 г., усё ўвайшло ў наежджаную каляіну.

**11. Ураўноўваньне моваў**

Іншым разам мову выціскаюць з ужытку, надаючы ёй статус роўнасьці з той, якой улады рабілі найбольш спрыяльныя ўмовы йснаваньня. Беларусь ужо мела досьвед ураўноўваньня моваў у афіцыйным ужытку. 26 жніўня 1696 г. супольная канфэдэрацыя саслоўяў або Сойм Рэчы Паспалітай Абедзьвюх Народаў абвясьціў, што ў справаводзтве Вялікага Княства Літоўскага «цяпер усе рашэньні павінныя складацца на польскай мове. Усе папярэднія акты, запісы, рашэньні й паказаньні захоўваюць сваю моц». У гэтай і наступных дзяржаўных пастановах пра забарону бел. мовы гаворкі няма. Больш за тое, бел. мова напрацягу ўсяго XVIII ст. працягвала, побач з польскай, ужывацца ў справаводзтве ВКЛ, рукапісах, асобных друкаваных выданьнях. На ёй ствараліся інтэрмэдыі, парадыйная паэзія й проза, казаньні, песьні, тлумачальныя слоўнікі, дапаможнікі. Пра гэта сьведчыць, напрыклад, пастанова Пінскай ангрэгацыі 1791 г., дзе гаворыцца, што настаўнікамі могуць быць толькі тыя асобы, каторыя валодаюць польскай і беларускай мовамі. Слуцкая праваслаўная кансысторыя у тым самым годзе загадала перакласьці Ўнівэрсал Сойму Рэчы Паспалітай на бел. мову. Калі за сем гадоў да таго кароль і вялікі князь Станіслаў Аўгуст наведаў Палесьсе, дык ягоную дарогу зь Пінску да Крыстынопаля аздобілі надпісамі на польскай, лацінскай, беларускай і старажытнажыдоўскай мовах.

Што тычыцца беларусаў Расейскай Фэдэрацыі, дык я прыгадаю, як паспрабавалі беларусы Пецярбургу адкрыць праваслаўную царкву пры беларускім прыходзе. Царкоўныя ўлады хуценька пераўтварылі прыход на расейскі. У Расейскай Фэдэрацыі няма аніводнай бел. дзяржаўнай школы, аніводнай дзяржаўнай бел. бібліятэкі, нават у двух гарадах з найвялікшай колькасьцю бел. жыхарства, Маскве й Пецярбурзе. Нагадаю, што ў Маскве й Маскоўскай вобл. жыве 130 тыс. беларусаў, а ў Санкт-Пецярбурзе й Ленінградзкай вобл. — больш за 127 тыс. беларусаў. У Карэліі, Ленінградзкай вобл. й Маскоўскай вобл. беларусаў налічваецца да 11% ад агулу насельніцтва. У Расейскай Фэдэрацыі няма ніводнай дзяржаўнай праграмы па-беларуску на радыё й тэлебачаньні, ніводнага бел. тэатра, ня тое што катэдры, але й курсу беларусазнаўства, няма нават бел. спэцыялізацыі ў вышэйшых установах. У той самы час у ВНУ сталічных гарадоў Расеі вывучаюцца мовы й культуры шмат якіх афрыканскіх ды азіяцкіх этнасаў.

Да параўнаньня, у дэмакратычнай Польшчы, у якой жыве ўчацьвера менш беларусаў, чым у Расеі, працуюць 6 катэдраў беларусазнаўства ў ВНУ пяцёх гарадоў. Туды езьдзяць пецярбургскія беларусазнаўцы чытаць лекцыі або рабіць навуковыя даклады замест таго, каб чытаць іх у гарадах РФ. У адрозьненьні ад Расеі, дзе выходзяць толькі малатыражныя газэты бел. суполак, у Польшчы, Летуве, Латвіі, Украіне выходзяць шматтыражныя бел. газэты, а ў Польшчы й бел. часопісы. У Варшаве, Вільні, Беластоку, Таліне працуе беларускамоўнае радыёвяшчаньне. У Польшчы, Летуве й Латвіі працуюць бел. школы. У Вільні, на бел. катэдры пэдунівэрсытэту, рыхтуюць бел. настаўнікаў... Затое ў Расеі цэлы час заклікаюць да дзяржаўнага аб'яднаньня Беларусі й Расеі. Што можа чакаць бел. мову й культуру ў той аб'яднанай Расеі-Беларусі, пры сёньняшніх адносінах да іх і ў Расеі, і ў Беларусі, няцяжка прадбачыць.

**Валянцін Грыцкевіч**

*Працяг у наступным нумары*

# Расея — эпіцэнтар разбуральных сілаў сусьветнай супольнасьці

**1. Няшчасны народ, які абараняе Расея ці якому яна дапамагае**

У косаўскай крывавай драме, дзе камуністычная ідэалёгія аб'ядналася зь ідэалёгіяй сацыял-дэмакратыі супраць фундамэнтальнага прынцыпу самаарганізацыі матэрыі, Расея спрабавала граць ролю спэцыфічнага міратворцы. Яна адкрыта дэкляравала права аднэй нацыі распраўляцца з другой, матывуючы гэта тым, што яны знаходзяцца ў вадной дзяржаве, і таму самазьнішчэньне гэта іхняя ўнутраная справа. Менавіта палітыка Расеі шмат у чым садзейнічала таму, што Сэрбія ня толькі згубіла Косава, але й аказалася эканамічна разбуранай.

Але-ж, мажліва, быў мірны варыянт рашэньня косаўскай праблемы ў поўнай адпаведнасьці з прынцыпам самаарганізацыі матэрыі. Трэба было толькі падзяліць тэрыторыю Косава на дзьве часткі прапарцыянальна колькаснаму складу кожнай з нацыяў, каб людзі – без кравапраліцьця й пад наглядам ААН – памянялі сваё месцажыхарства адпаведна сваім сьветапоглядам, з усьведамленьнем таго, што берагчы сваю зямлю ёсьць абавязак кожнай карэннай нацыі перад усім людзтвам. Расходы на кампэнсацыю такога перасяленьня склалі-б ня больш расходаў НАТА на вядзеньне вайны напрацягу аднаго месяца. Падобная апэрацыя была праведзеная калісьці на Кіпры, і ўжо дзясяткі гадоў праблемы тэрарызму на Кіпры няма. І паступова патэнцыял антаганізму дзьвюх абшчынаў зьмяншаецца. І калі ён там яшчэ йснуе, дык да гэтага прыкладаюць рукі як Турцыя, гэтак і Грэцыя. Але чамусьці ў выпадку з Косавым палітычным элітам Эўропы не хапіла кампэтэнтнасьці, не кажучы ўжо пра Расею.

І вось не пасьпела грамадзкасьць забыць неразважлівы кідок рускага батальёну ў Косава, як Расея распачала буйнамаштабную вайну на зьнішчэньне чачэнскага народу. Да гэтай вайны Расея рыхтавалася тры гады пасьля зваёй паразкі ў каляніяльнай вайне ў той самай Чачні. Яна цалкавіта выкарыстала досьвед НАТА ў Косаве, удасканаліўшы яго татальным выкарыстаньнем артылерыі, якая ператварае ўсё ў мёртвую зону. Афіцыйна й бессаромна сцьвярджаецца, што расейская армія ловіць тэрарыстаў Басаева й Хаттаба, вакое зь міжнародным тэрарызмам. Расейскія СМІ нападняюць эфір словамі й фразамі кшталту «тэрор», «тэрарызм», «міжнародны тэрарызм», «тэрарысты», «бандыты», «мачыць тэрарыстаў, нават у сарціры», «чалавецтва аб'ядноўваецца дзеля барацьбы зь міжнародным тэрарызмам» і г. д.

Каб зразумець сэнс слова «тэрарызм», зьвернемся да слоўніка: «Тэрарызм – фізычны гвалт аж да фізычнага зьнішчэньня, забойства ў адносінах да палітычных праціўнікаў», «Тэрарызаваць – страшыць тэрорам, гвалтам». У цяперашні час сэнс гэтых паняцьцяў пашырыўся, і іх можна аб'яднаць словам «тэрарызм». Тэрарызм гэта зьява, практыка прысвойваньня чалавекам, групай асобаў, палітычнымі элітамі, дзяржавамі правоў, каторыя ўшчамляюць правы іншых людзей, сацыяльных групаў, народаў, дзяржаваў да іх фізычнага зьнішчэньня ці спыненьня іхняга йснаваньня.

Што-ж зьяўляецца прычынай тэрарызму, дзе знаходзіцца ягоная крыніца, жыцьцёвая сіла? Толькі адказаўшы на гэтае пытаньне, можна гаварыць пра эфэктоўную барацьбу з зьявай, якая бязьлітасна разбурае нашую цывілізацыю.

З моманту зараджэньня дзяржавы на яе ўскладаюцца дзьве фундамэнтальныя задачы: а) забясьпечыць бясьпеку свайго народу й б) стварыць умовы для свабоднай і плённай працы грамадзянаў. Усе іншыя функцыі, якія выконвае дзяржава, гэта функцыі, што прыдумала дзяржаўная бюракратыя, палітычныя эліты, каб прысвоіць сабе максымум правоў і ўшчаміць правы народу. І таму прычынай тэрарызму, ягоным генэратарам зьяўляецца сама дзяржава – асноўны інструмэнт палітычнай сыстэмы, што ажыцьцяўляе кіраваньне грамадзтвам, абарону ягонай эканамічнай ды сацыяльнай структуры. І гэтая машына знаходзіцца заўжды ў руках кіруючай клясы. А верхавіна кіруючай клясы напышліва называе сябе «палітычнай элітай». Менавіта гэтае асяродзьдзе нараджае вірус тэрарызму, калі палітычная эліта пачынае лічыць ўсёдазволенасьць і безпакаранасьць нормай сваіх паводзінаў.

Дзеяньні эліты ўступаюць ў супярэчнасьць з фундамэнтальным прынцыпам самаарганізацыі матэрыі. Вонкава гэтая супярэчлівасьць праяўляецца праз парушэньне элітамі правоў і свабодаў народу (супрацьдзеяньне тэарэме Фішара), праз імкненьне стварыць самую магутную дзяржаву й дыктаваць сваю волю ўсяму сьвету (супрацьдзеяньне закону энэргетычнай неэфэктоўнасьці вялікіх дзяржаваў). Супрацьдзеяньне-ж законам прыроды спараджае разбуральныя грамадзкія сілы, якія праяўляюцца праз падзеньне духоўнасьці, маралі. Падзеньне духоўнасьці эліты перадаецца ўсім па герархічнай лесьвіцы, урываецца ў рэгіёны, гарады, вёскі, вуліцы, асобныя дамы, сем'і, разбурае лад жыцьця, гістарычны досьвед народу. Грамадзтва дэградуе, разбураецца. Разбураюцца сем'і, абяздоленымі робяцца дзеці, жанчыны й мужчыны ўваходзяць у супярэчнасьць з сваімі прыроднымі функцыямі, становяцца безабароннымі й слабымі.

Пасеяны палітычнай элітай вецер прыносіць гураган, які ня літуе й сейбіта. Эліта йдзе на кожныя злачынствы, каб зьберагчы свае правы ўсёдазволенасьці й безпакаранасьці, але прынцып самаарганізацыі матэрыі бязьлітасны. Ён разбурае ўсё, што яму пярэчыць. Тэрарызм зьяўляецца лакмусавай паперкай здароўя палітычнай эліты дзяржавы. Калі тэрарызм у дзяржаве адсутнічае, ці ён зьнікаецца – гэта пакашчык здароўя палітычнай эліты, ці пасьпяховага ейнага аздараўленьня. У супрацьлеглым выпадку палітычная эліта й дзяржава імкліва разбураюцца. Індэкатарам зьяўляецца сумарная колькасьць прадстаўнікоў розных службаў бясьпекі, міліцыі, арміі, чынавецтва на душу насельніцтва. Чым вышэй гэты пакашчык, тым вышэй узровень разлажэньня палітычнай эліты й дзяржаўных структураў. А гэта выклікае ўзрушэньне ўсёй цывілізацыі.

На парозе новага тысячагодзьдзя эпіцэнтрам разбуральных сілаў нашай цывілізацыі зьяўляецца Расея й ейная палітычная эліта.

**Валеры Арцішэўскі**

*Працяг у наступным нумары*

# Францішак Багушэвіч у Вільні

## да 160-годзьдзя з дня нараджэньня

Вільня другой паловы XIX ст. была невялікім плошчай правінцыйным горадам. Антокаль, Сьніпішкі (за Зялёным мостам), Зарэчча, Лукішкі, Пагулянка, Роса, Паплавы, Новы Горад, — гэта паводле А. Кіркора, аўтара даведніка пра Вільню, былі прыгарады. Вуліцы былі вузкія, крывыя, толькі адносна новая вуліца, Георгіеўскі прашпэкт, была досыць шырокай, абсаджанай дрэвамі. Вуліцы былі брукаваныя камянямі, г. зв. «кацячымі ілбамі», асьветленыя газавымі ліхтарамі. У самым горадзе ня мелася ні паркаў, ні сквераў. Рух быў невялікі: езьдзілі звозчыкі, вясною, летам і восеньню на калёсах, зімой на санках. Праеджая частка вуліцы ад сьнегу ня чысьцілася. Быў, праўда, конны трамвай «конка», які езьдзіў ад прашпэкту да касьцёла Пятра й Паўла. Калі «конка» сходзіла з рэйкаў, пасажыры выходзілі ды памагалі паставіць вагон на мейсца, ехалі далей.

Жыхарства Вільні налічвала тады каля 88 тыс. чалавек самых розных нацыянальнасьцяў. Праўда, тагачасная статыстыка падае склад насельніцтва паводле рэлігіі й сацыяльнага паходжаньня, але й з гэтага відаць, што апрача карэнных жыхароў, ля-тувісаў і беларусаў, тут жылі палякі, расейцы, жыды, татары, караімы, немцы, прычым палавіна насельніцтва (44 683) было жыдоўскае.

У горадзе адчувалася русыфікатарская палітыка, школы й адзіная гімназія былі расейскія, унівэрсытэт зачынены. Некаторыя касьцёлы, як, напрыклад, Сьв. Казімера, уніяцкі касьцёл Сьв. Тройцы, пераўтвораныя ў цэрквы, аддадзеныя пад сьвецкія ўстановы ці проста зачыненыя. Некаторыя палацы, як палац Слушкаў, былі аддадзеныя пад вастрогі ці шпіталі (палац Сапегаў на Антокалі). На Катэдральным пляцы стаяў помнік Кацярыны II, а перад Генэралгубэрнатарскім палацам (цяпер Прэзыдэнтура) — помнік Мураўёву-Вешальніку.

Тым ня менш, горад са сваімі шматлікімі касьцёламі разнаітых архітэктурных стыляў, ад готыкі да нэаклясыцызму, цэрквамі й пекнымі палацамі мусіў рабіць на прыежджых вялікае ўражаньне.

Вось у такую Вільню й прыехаў у 1852 г. Францішак Багушэвіч. Ён паступіў у адзіную тады гімназію, якая месьцілася ва ўнівэрсытэцкіх мурох. У сьпісе вучняў Віленскай гімназіі, няздольных плаціць за вучобу, ёсьць і прозьвішча Ф. Багушэвіча, побач з прозьвішчам ягонага брата Валяр'яна. Відаць, бацька пастанавіў, каб абодва сыны вучыліся разам, так лягчэй было пражыць, заплаціць за кватэру. Вучыўся Францішак добра, у пастанове Пэдагагічнай рады ад 17 верасьня 1861 г. ягонае прозьвішча названае ў ліку лепшых чатырох вучняў. У журнале паседжаньня рады адзначаюцца добрыя посьпехі Францішка, асабліва ў расейскім заканадаўстве. Багушэвіч атрымаў чын XIV клясы, найніжэйшы чынавецкі чын, і права на паступленьне ва ўнівэрсытэт.

Гэтак, у 1861 г., закончыўся першы віленскі пэрыяд у жыцьці Багушэвіча. Далей быў Пецярбург, вучоба на матэматычным факультэце, просьба аб звальненьні дзеля хваробы, вяртаньне на радзіму, праца вучыцелем, удзел у паўстаньні 1863 г. Паранены Багушэвіч нейкі час хаваўся, а пасьля, каб пазьбегнуць пакараньня, выехаў на Украіну, дзе ў 1865 г. паступіў у Нежынскі юрыдычны ліцэй. У 1868 г. закончыў ліцэй і ўладкаваўся на працу. У 1884 г. ён, калежскі саветнік, кавалер ордэна Сьв. Станіслава 3-яй ступені, варочаецца ў Вільню, ды не



*1840 — 1900*

ны. Неўзабаве ён праславіўся як прысяжны адвакат, каторы вельмі часта прыміраў пасвараных працаўнікаў у сваёй канцыляры ці перад судом, як абаронца бедных. Ягоную кватэру на Конскай можна было адразу распазнаць, бо перад ёй, асабліва ў рыначныя дні, ажно раілася ад сялянаў. Пан адвакат, насуперак звычкам калегаў, прыймаў сваіх кліентаў ад 5-6 раніцы вясной і



летам, а справы залагоджваў ня толькі ў сваім габінэце, а й на вуліцы. У якасьці гаспадара часта атрымоўваў зайца ці аповяд пра сялянскую нядолю. Папулярнасьць адваката расла, а грошы цяклі танюткім струмком. Багушэвіч гэтым не праймаўся, жыў зь сяʼёй вельмі сьціпла. Увечары, замест сядзець над судовымі паперамі, займаўся складаньнем вершаў. Спачатку, пад уплывам украінскага адраджэнскага руху, ён пісаў паукраінску, пісаў і па-польску. Хутка аднак зразумеў, што трэба пісаць на роднай, беларускай, мове для людзей, каторыя гавараць на ёй, будзіць іхныя нацыянальныя пачуцьці. Польская пісьменьніца Эліза Ажэшка, якая стала жыла ў Гародні й зь якой ліставаўся Багушэвіч, радзіла яму пісаць толькі па-беларуску.

У Вільні Багушэвіч бываў у коле інтэлігенцкай моладзі. Браў удзел у экскурсіі на лодках зь Вільні ў Коўна. Ён плыў на асобнай лодцы з сваім сваяком Габрыелам Радзівілам. Начавалі на беразе, варылі кашу са скваркамі, ставілі самавар, пілі гарбату. Ковенскае грамадзтва цёплы прыняла падарожнікаў... Тая экскурсія пакінула сьлед і ў творчасьці Багушэвіча. Ён напісаў тры вершы па-беларуску й адзін па-польску, апісваючы вандроўку па Віліі й гасьціннасьць ліцьвіноў.

У Вільні Багушэвіч пазнаёміўся й пасябраваўся з Зыгмунтам Нагродзкім, каторы спачатку працаваў у сельскагаспадарчым калектыве на вул. Татарскай (Татору), а пасьля меў сваю краму сельскагаспадарчых машынаў і прыладаў. Гэта быў драўляны павільён на Завальнай, насупраць Эвангеліцкага касьцёлу (цяпер тут сквэр). Фірма Нагродзкага йснавала і ў міжваенным часе, Сам Нагродзкі жыў непадалёк ад сваёй крамы ў доме на рагу Завальнай і Вялікай Пагулянкі (Пілімо — Басанавічус). Вось сюды й заходзіў Багушэвіч да свайго сябра.

Трэба сказаць, што Нагродзкі праз усё сваё жыцьцё цікавіўся беларускай паэзіяй і сам пісаў вершы па-беларуску. (У Беларускім музэі ўмя Івана Луцкевіча перахоўваліся два такія вершы. А ў «Калосьсях», у другім нумары за 1937 г., быў надрукаваны артыкул пра З. Нагродзкага). Нагродзкі захапляўся творамі Багушэвіча, ён дэклямаваў ягоныя вершы на розных вечарынах. Пры гэтым ён быў адзеты ў белую вышываную кашулю, падпярэзаную паяском, або ў сьвітку. «Дудку» Багушэвіча ён раздаваў сялянам, якія куплялі ў яго гаспадарчыя прылады. Ёнжа за свае грошы арганізаваў другое выданьне «Дудкі» ў Кракаве. Прывезьці ў Вільню ўдалося толькі 200 асобнікаў. Шмат пазьней Іван Луцкевіч адшукаў у Кракаве цэлы наклад і перавёз кніжкі ў Вільню.

У 1898 г. — на сотыя ўгодкі народзінаў Адама Міцкевіча — паўстала думка наладзіць гарадзкое сьвяткаваньне. Нарада сабралася на кватэры Багушэвіча, стварылі камітэт, які пастанавіў зрабіць табліцу з адпаведным надпісам і памясьціць яе ў касьцёле Сьв. Яна. У склад камітэту ўвайшлі сярод іншых Багушэвіч і Нагродзкі.

У сваіх «Лістках каляндара» Максім Танк пісаў пад датай 27 03 1937 г.: «Раніцай даведаўся аб сьмерці Нагродзкага. Памёр незвычайна цікавы чалавек, адзін з апошніх прадстаўнікоў таго пакаленьня, якое мы ведаем толькі зь літаратуры. Апошні раз, калі я быў у яго з Путрамэнтам, ён расказваў аб сваёй дружбе з Багушэвічам, вершы якога часта чытаў, апранушыся ў мужыцкі строй. Паказваў нам цікавыя здымкі Багушэвіча і рукапісы нікому невядомых твораў паэта, якія захоўваліся ў яго архіве. Успамінаў, як памагаў выдаваць у Кракаве «Дудку» Ф. Багушэвіча, як перапраўляў кнігі цераз граніцу, у Вільню...»

У 1898 г. Багушэвіч падаў заяву аб звальненьні яго ад абавязкаў прысяжнага паверанага пры Віленскім акруговым судзе. У той час ён быў ужо хворы, дый у судзе насьпяваў вострый канфлікт зь некаторымі калегамі й начальствам. Яно зразумела, «беларускую варону» нідзе ня любяць.

Багушэвіч пасяліўся ў сваім маёнтку Кушляны, тут ён працягваў працаваць над слоўнікам беларускай мовы, марыў пра выданьне граматыкі, тут яго ня раз наведваў З. Нагродзкі. За год да сьмерці Багушэвіч здаў у Віленскую губэрнскую друкарню зборнічак «Беларускія апавяданьні Бурачка», лёс рукапісу невядомы. За месяц да сьмерці ён яшчэ падпісаў фінансавую справаздачу пра мэмарыяльную табліцу А. Міцкевічу, якая была патаемна ўстаноўленая раніцай 18 чэрвеня 1899 г. ў касьцёле Сьв. Яна. Памёр «бацька беларускай паэзіі» 28 красавіка 1900 г. Пахавалі Францішка Багушэвіча на могілках у Жупранах. Некаторыя польскія й расейскія газэты адклікнуліся на ягоную смерць нэкралёгамі.

адзін, а зь сямʼёй: жонкай Габрыеляй, дачкой Канстанцыяй і сынам Тамашам-Вільгельмам. У Вільні Багушэвічы пасяліліся на Конскай вуліцы, у рогавым доме насупраць Галі. Гэты дом быў разбураны падчас апошняй вайны.

На працу Ф. Багушэвіч уладкаваўся пасьля здачы экзамену — у Віленскі акруговы суд адвакатам. Суд знаходзіўся ў палацы графа Тышкевіча, рог Троцкай і Завальнай (Траку — Пілімо), будынак адметны тым, што ганак падтрымоўваюць два атланты, — віленчукі празвалі яго «домам пад балванамі».

Другі віленскі пэрыяд у жыцьці Францішка Багушэвіча быў кароткі, але цікавы й плён-

**Галіна Война**

Сябры рэдакцыі «Руні» выказваюць жаль з нагоды трагічнай гібелі нашых землякоў з Канады, **Ірэны й Віктара Касьцюкевічаў**.

## Трагічнае здарэньне

адбылося на магістралі Віцебск-Бягомль, дзе ў аўтамабільнай катастрофе загінуў **Антон Падляшчук**, сябра, дарадца, апякун гісторыка-этнаграфічнага музэю «Засьцянковая хатка» ў Вашунаве. Антон Падляшчук быў рупны гаспадар, вёў узорную фэрмэрскую гаспадарку ў в. Лайкова. У яговым гасьцінным доме спыняліся людзі зь Вільні, нават цэлыя калектывы мастацкай самадзейнасьці, як «Зожа» з Судэрвы, «Гервяты», «Вярдане», «Баравянка», што прыяжджалі на фэсты ў «Засьцянковую хатку». Ён і ягоныя блізкія заўсёды ветліва сустракалі віленчукоў, частавалі, чым маглі... Мы схіляем галовы перад сьветлай памяці Антонам Падляшчуком. Няхай яму будзе пухам родная зямелька!

Сябры ТБМ Віленскага Краю

## Матар'ялы аб кананізацыі

(прылічэньня да ліку сьвяты) беларускіх каталіцкіх сьвятароў Вінцэнта Гадлеўскага й Адама Станкевіча, каторыя загінулі адпаведна ў 1942 і 1949 гг. у гітлераўскім і сталінскім засьценках пакутніцкай сьмерцю за Хрыстову Веру й Беларускі Народ, — падрыхтавалі й выслалі ў адрас біскупа Гарадзенскай дыяцэзіі Аляксандра Кашкевіча сябры ТБМ Віленскага Краю. Спадзяемся, што з Божай дапамогай імёны слынных сыноў Беларусі будуць адпаведным чынам ушанаваныя (кананізаваныя) ў Рыме ў апостальскай сталіцы Сьвятога Пятра. Памолімся за гэта!

**Юры Гіль**
*Вільня*

## Пра гарантыі беларускага сувэрэнітэту

нягледзячы на адпаведныя пагадненьні, Захад успомніў толькі цяпер. Занепакоенасьць такім стаўленьнем прасочвалася ў пытаньнях кангрэсмэнаў (падчас слуханьняў у Кангрэсе ЗША паводле беларускага пытаньня, што адбыліся 9 сакавіка — *рэд.*) да прадстаўнікоў місіі АБСЭ... Каментуючы адказы прадстаўніка місіі сп. А. Северына, кангрэсмэны выказалі вострую незадаволенасьць дзейнасьцю місіі й ясна адзначылі, што яе кіраўнік сп. Г. Вік выкарыстоўвае міжнародную арганізацыю, каб праводзіць палітыку асобных урадаў. Сп. Северына літаральна загналі ў кут пытаньнямі аб выніках дзейнасьці іх арганізацыі ў Менску. Ён прызнаў, што вынік дзейнасьці быў нулявы. На думку прысутных на слуханьнях, захады прадстаўнікоў АБСЭ аб перамоўным працэсе й спатканьні з лукашэнкаўскімі функцыянэрамі толькі спрыяюць легітымізацыі незаконнага рэжыму й ня маюць ніякага плёну. Упершыню амэрыканцы не пазьбягалі ў беларускім кантэксьце праблемаў іхных дачыненьняў з Расеяй. Галоўны вынік сустрэчы — на самым высокім узроўні была канстатаваная неэфэктоўнасьць амэрыканскай палітыкі ў Беларусі й пачаўся пошук выйсьця. Было адзначана, што падтрымка дзеячоў кшталту Ціхіні, Грязновай ды інш. не дала плёну.

У Вашынгтоне адбылася сустрэча сп. Зянона Пазьняка з прадстаўнікамі Дзяржадэпартаманту ЗША. сп. сп. Сэстанавічам, Уілсанам, Івенам Бжэзінскім і спн. Мэры Оўры. На пытаньні: «Што Амэрыка павінная зрабіць?», «Як Вы ацэньваеце амэрыканскую дапамогу?», сп. Пазьняк адказаў: «Гэта дапамога, калі яна наагул існуе, — абсалютна неэфэктыўная. Здаецца, што амэрыканскія экспэрты неабгрунтавана засяродзіліся на неіснуючым канфлікце паміж прарасейскай апазыцыяй і беларускім нацыянальна-вызвольным рухам, падтрымоўваючы першы бок і пакідаючы па-за ўвагай лёс Беларусі як незалежнай дэмакратычнай краіны. Мы, беларускія сьведамыя сілы, не атрымалі ні цэнта дапамогі. І з дапамогай Амэрыкі ці безь яе, мы будзем працягваць барацьбу з прарасейскім рэжымам за свабоду й незалежнасьць нашай краіны...»

Спн. Галіна Навумчык распавяла пра сваё інтэрвію, якое яна брала для мяйсцовай расейскай тэлевізіі ў расейскага багатыра Б. Беразоўскага. Ён прызнаў, што напрацягу доўгага часу Лукашэнка быў для пэўных уплывовых расейскіх колаў кандыдатам на прэзыдэнцкі пасад у Расеі. Але цяпер, з прыходам Пуціна, узровень і здольнасьці якога непараўнальна вышэйшыя, пытаньне аб расейскім прэзыдэнцтве цалкам закрытае. Сп. Пазьняк дадаў, што адсюль вынікаюць толькі два варыянты будучага Лукашэнкі: альбо ён будзе выконваць усе заданьні Масквы, альбо будзе прыбраны. І абодва варыянты вельмі небясьпечныя для Беларусі...

*Зь «Весткаў і паведамленьняў» (N5/2000)*

## Газэта «Рунь»

добра апрацаваная й рэпрэзэнтуе незалежніцкую думку нашай дыяспары», — напісаў нам сп. **Сыльвэстар Будкевіч** з Англіі, каторы адумыслова пабываў у Лёндане, каб прыняць там удзел у абходзе гадавіны акту 25 Сакавіка. Разам зь віншаваньнямі ён залучыў падрабязнае апісаньне сьвяточнага абходу ў Лёндане. Вялікі дзякуй!

## «Птушыны рай»

вялікая канцэптуальная выстава пад такой назвай адбудзецца ў траўні ў Полацку. Ладзіць яе мастачка Тацяна Козік. Там будуць выступаць і паэты,» — паведаміў нам **Алесь Аркуш** з Полацку.

## Вельмі шмат працы

на глебе Беларушчыны й вельмі шмат, на жаль, ворагаў, якія жадаюць нашае гібелі. З гэтага артыкула, а лепей сказаць, бруднага пасквіля вы, я спадзяюся, зразумееце, як цяжка зараз працаваць у Краі, дый, увогуле, быць проста Беларусам. Думаю, што ў Вільні вас не цягаюць у адпаведныя кабінэты толькі праз тое, што вы моліцеся ці размаўляеце па-беларуску,» — напісаў нам а. **Аляксандар Верамейчык** зь Менску, даслаўшы разам зь лістом і згаданы артыкул Івана Белавуса «Раскол Церкви будет страшнее татарского ига, а Беловежские соглашения покажутся играми в детской песочнице», надрукаваны ў «Белорусской Ниве» 1 сакавіка 2000 г. Артыкул вытрыманы ў духу «добрых сталіноўскіх часінаў». У ім зьмешчаны ліст «абураных працоўных» (у дадзеным выпадку гэта прыхаджане Сьвята-Петрапаўлаўскага сабору ў Менску, што на Нямізе), занепакоеных дзейнасьцю «так званай «маладзёвай суполкі»» пры згаданым саборы, якую ачольвае а. Аляксандар: «На еженедельных встречах «суполкі»... священник Александр Веремейчик открыто агитирует аудиторию за создание Белорусской автокефалии... выступающие соревнуются в выражении ненависти к России и злословии по отношению к нынешней «прарасейскай уладзе» в Беларуси. Особую тревогу вызывает всё возрастающая численность молодёжи... Создаётся впечатление, что бэнэфовцы пытаются воспитывать свои церковные кадры...» і г. д. Надалей «обеспокоенные верующие» прапануюць «ряд неотложных мер» і папярэджваюць: «Если в ближайшее время не предпринять указанных мер по пресечению деятельности антицерковной групировки националистов, то... возникнет опасность стихийного взрыва среди верующих и применения по отношению к ним (к «национал-экстремистам» — *рэд.*) силовых методов воздействия». А напрыканцы артыкула — «пярліна» самога Івана Белавуса: «Конечно, не наше это дело — встревать в дела церкви. Но слишком много памятных исторических событий произошло за эти двадцать веков христианства (вось аж куды сягае! — *рэд.*), чтобы не видеть того, что происходит с нами сейчас. Мы также знаем, что пока едина Православная Церковь, значит, и едина духовно Святая Соборная Русь, основу которой составляют народы Беларуси, Украины, России. Вот почему, разъединив наши народы политическими границами, враги православия хотят разделить нас и духовно...» Знаёмая песенка. Як кажуць, камэнтары тут непатрэбныя. Адно толькі засмучае, што ў рэдакцыях афіцыйных менскіх, выбачайце, мінскіх газэтаў супрацоўнічаюць падобныя да Івана Белавуса цемрашалы й невукі, каторыя ня ведаюць (ці ня хочаць ведаць), што сярод беларусаў, напрыклад, значная колькасьць каталікаў, а сярод украінцаў нямала ўніятаў.

## Кампанію Ганебных Граматаў

распачала група беларусаў апошняй хвалі эміграцыі. Скіраваная яна супраць беззаконьня, якое творыцца сёньня ў Беларусі. Неўзабаве найбольшыя рупліўцы ў справе парушэньня дэмакратычных правоў й законнасьці, зьнішчэньня беларушчыны, што «шчыруюць» у судовых, урадавых і сілавых структурах, РБ атрымаюць такія Ганебныя Граматы. Пра гэта паведаміў нам каардынатар кампаніі **Раман Кардонскі** з Амэрыкі. «Як узор прыкладаю чорна-белую копію,» — піша ён.




## У выдавецтве «Рунь»

выйшла кніга **Міраславы Русак** «Лявонава доля» пра жыцьцёвы й творчы шлях ейнага бацькі Станіслава Станкевіча. Станіслаў Станкевіч (1886 — 1964) быў ведамы ў Вільні міжваеннага пэрыяду, як уласьнік беларускай кнігарні, кнігавыдаўца, асьветнік, паэт. Выдаў два прыжыцьцёвыя зборнікі паэзіі «Сьмех ня грэх» (1926) і «З майго ваконца» (1928). Але большасьць з ацалелых вершаў С. Станкевіча захавалася ў ракапісах, у сямейным архіве ягоных дзяцей, Міраславы Русак і Ярослава Станкевіча. Кніга складаецца з успамінаў Міраславы Русак ды зь вершаванага дадатку, у які пераважна ўвайшлі рукапісныя, нідзе раней недрукаваныя творы паэта. Кніга выдадзеная на сродкі дзяцей і ўнукаў Станіслава Станкевіча.

**А. М.**

## Ліст з Адэляйды

(Паўдзённая Аўстралія) даслаў нам сп. **Уладзімір Акавіты**. Ён падрабязна апісаў абыход сьвята 25 Сакавіка ў гэтым далёкім аўстралійскім горадзе. Зладжанае яно было ў нядзелю 26 сакавіка ў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве Сьв. апосталаў Пятра й Паўла. «Царква была прыбраная сьвежымі кветкамі. Гэта давала сьвяточны настрой. Многія мужчыны прыйшлі ў вышываных кашулях, жанчыны — у вышываных блюсках», — піша сп. Акавіты. Пасьля Божае службы, якую праводзіў настаяцель тамтэйшай парахвіі пратаярэй Пятро Касацкі (які ў свойчас атрымаў высокую адукацыю ў Варшаве ў духоўнай акадэміі) адбыўся малебен за Беларусь. «Былі трыманыя два сьцягі, — распавядае наш зямляк, — беларускі й аўстралійскі. Трымалі Антон Яновіч Малодшы й Міхась Шчурко».



# Пра новую беларускую радыёстанцыю «Балтыйскія хвалі»

*Праця са старонкі 3*

падзеі ў Беларусі й беларускіх слухачоў. Тым больш, што там цяпер, мякка кажучы, ёсьць вялікія праблемы са свабодай слова й інфармацы.

**– Чым вашая радыёстанцыя адрозьніваецца ад іншых бел. радыёстанцыяў, такіх як «Свабода», «Рацыя», «Палёнія»?**

– Гэтыя й іншыя бел. перадачы як-бы канкурэнты адна адной. Часам нават перакрывалі сеткі вяшчаньня, і вяшчаньне гэтае йшло на кароткіх хвалях, між тым як парк кароткахвалевых радыёпрыёмнікаў і ў Літве, і ў Беларусі скарачаецца. Сутнасьць-жа нашага праекту – аб'яднаны канал на сярэдніх хвалях, каторыя маюцца ва ўсіх радыёпрыёмніках, уключаючы аўтамабільныя. Мы перадаем праграму, якая складаецца зь вяшчаньня некалькіх радыёстанцыяў: «Свабода» (4 гадзіны ў суткі), «Польскае радыё» (паўгадзіны ў суткі), нашая ўласная перадача (пакуль што таксама паўгадзіны ў суткі). Дадасца яшчэ 10 хвілінаў «Літоўскага радыё», падключыцца новая радыёстанцыя зь Беластоку «Рацыя». Такім чынам, мы ўсе гэтыя перадачы на бел. мове робім не канкурэнтамі, а калегамі, каторыя адзін аднага дапаўняюць, не перакрываюцца ў часе, і якія дасягаюць слухачоў, як тут, у Літве, гэтак і ў Беларусі, на сярэдніх хвалях. Слухачы-ж на свой густ могуць выбіраць, што ім больш падабаецца.

**– Як далёка ахоплівае вашая радыястанцыя тэрыторыю Беларусі?**

– Наш перадатчык зь Вільні не скіраваны на Беларусь, і нашае вяшчаньне нельга назваць іншавяшчаньнем. Аднак, як паказвае наш сьціплы досьвед, нашыя перадачы (праўда, у залежнасьці ад часу) з добрай якасьцю праслухоўваюцца ад 200 да 300 км. Практычна нас можна чуць у Менску. Аднак там шмат індустрыяльных памехаў і чутнасьць залежыць ад многіх фактараў.

**– Вы сказалі, што «Балтыйскія хвалі» перадусім разьлічаныя на літоўскіх беларусаў?**

– Так, мы распавядаем ім пра падзеі ў Літве, Беларусі і ва ўсім сьвеце.

**– А які будзе характар перадач з самой Вільні?**

– Гэта пытаньне хутчэй да нашага галоўнага рэдактара Сяргея Шупы. А так сёньня мы ўжо маем свае паведамленьні, культурную старонку, каляндар гістарычных падзеяў, агляды літоўскага друку з камэнтарамі. У залежнасьці ад сродкаў мы давядзем аб'ём нашае рэгіянальнае праграмы да 1-2 гадзінаў у суткі. Увогуле, да канца гэтага году мы плянуем давесьці радыёвяшчаньне на нашым канале да 12 гадзінаў у суткі.

**– Ці сымпатызуеце вы ў сваіх перадачах нейкім палітычным партыям у Літве ці ў Беларусі? Напрыклад, агляды Яна Лаўрыновіча літоўскай прэсы робяцца з пункту гледжаньня партыі кансэрватараў, да якой належыце й Вы...**

– Пакуль яшчэ ня быў да канца рэалізаваны наш праект, беларускія ўлады імкнуліся даказаць, што мы будзем разбураць дабрасуседзкія адносіны паміж нашымі краінамі. Былі нават вельмі крытычныя выказваньні ў адрас «Балтыйскіх хваляў» прэзыдэнта Лукашэнкі й іншых дзеячаў, уключаючы бел. амбасадара ў Літве. У сап-раўднасьці, усё наадварот: калі беларусы, што пражываюць у Літве (а таксама і ў Беларусі), будуць мець яшчэ адзін, альтэрнатыўны, канал, чым больш яны імфарцыі будуць атрымоўваць аб палітычным і сацыяльна-эканамічным становішчы ў нашых краінах, – тым лепшыя будуць і дачыненьні паміж нашымі народамі... Я падкрэсьліваю, што праект нашага радыё рабіўся без аніякай падтрымкі якіх-бы там не было палітычных структураў Літвы. Ён ажыцьцяўляецца пры фінансавым садзеяньні розных фондаў у падтрымку дэмакратыі й свабоды слова. Наадварот, літоўскія ўлады, як у Сойме, гэтак і ў МЗС, і ў Прэзыдэнтуры, летась аказвалі даволі-такі вялікі ўціск, каб прыпыніць наш праект. Мы, дарэчы, ліцэнзію на радыёвяшчаньне атрымалі толькі з другога заходу. Так што праект наш не дзяржаўны, нашая радыёстанцыя ёсьць прыватная, створаная васьмю асобамі: чацьвёра літоўскіх і чацьвёра беларускіх грамадзянаў.

**– Такім чынам, у сваіх перадачах вы імкнецеся быць палітычна нэўтралнымі?**

– Так. Хаця былі спробы пэўных палітычных дзеячоў зь бел. апазыцыі, якія хацелі-б быць вялікімі нашымі сябрамі, неяк паўплываць на зьмест перадачаў, на кола нашых аўтараў, дзеля таго, каб абараняць свае партыйныя ды ідэалягічныя інтарэсы. Тут ужо былі пэўныя напружаньні. Аднак мы разумеем, што сама бел. апазыцыя даволі раздробленая, і было-б проста глупствам абараняць толькі адзін ейны накірунак. На нашым канале павінныя выказвацца людзі самых разнастайных сьветапоглядаў. Мажліва, для паўнаты карціны (тут мы яшчэ ня вы-значыліся) мы дамо на сваём канале й паўгадзіны Мінскага радыё, каб наш слухач мог-бы ва ўсім спэктры мець і пункт гледжаньня афіцыйных уладаў Беларусі, вучыўся аналізаваць падзеі.

**– Ці не хацелі-б вы бліжэй пазнаёміцца з кіраўнікамі й сябрамі беларускіх суполак Літвы? Нашая арганізацыя, Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя для Беларусі», парупілася-б, каб арганізаваць дзеля гэтага круглы стол...**

– З задавальненьнем. Я, як каардынатар праекту, лічу, што такія сустрэчы неабходныя. Аднак рабіць такую сустрэчу мэтазгодна тады, калі нашая мясцовая перадача будзе ўжо мець ня менш гадзіны эфірнага часу, г. зн. крыху пазьней.

**– Апошняе. Што Вы думаеце пра сытуацыю ў Беларусі?**

– Сытуацыя сумная. Апошнія жорсткія паводзіны беларускіх уладаў з удзельнікамі Марша свабоды паказваюць, што наўрад ці афіцыйны Мінск будзе шукаць кампрамісаў, наўрад ці магчымы сапраўдны свабодны дыялёг уладаў з апазыцыяй... Але што можам зрабіць мы? Ніхто ня вырашыць лёс Беларусі, калі гэтага ня зробяць самі беларусы. Мы толькі можам нейкім чынам спрыяць дэмакратычным пераўтварэньням у суседняй з намі краіне. І адзін з мэтадаў – лепшае інфармаваньне, што мы й робім у рамках нашага праекту.

*Гутарыў* **Алесь Трусаў**

# Б'ЮЦЬ ЗВАНЫ

1. Б'юць зва-ны, б'ю-цам сла-ва-юць, усім на-ро-дам а-бвя-шча-юць,
што ўва-скрос Хры-стос А-ле-лю-я, А-ле-лю-я, А-ле-лю-я!

**2. Б'юць так гучна і бадзёра,**
**Ў сэрцах робіцца вясёла,**
**Пан наш зноў жыве.**
**Алелюя...**

**3. Езус Збаўца ў Божай славе**
**Крочыць сёньня разам з намі,**
**Перамогшы сьмерць.**
**Алелюя...**

**4. Абудзіся, край наш родны,**
**Ў гэты дзень сьвяты, пагодны,**
**Каб хваліць Хрыста.**
**Алелюя...**

**Зь Вялікаднем!**

Першае цяпло. Чуранцы. *Здымак Мікуся.*

*Падрыхтавала* Валянціна Кавальчук

## Умовы падпіскі

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю імянны чэк сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**.

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі *(т: 61 62 24)* або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год –**12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі** паведамляем адрас у Менску: *Марыя Мурашка, п/с 176, 220123 Менск.* Кошт падпіскі на год – сума ў беларускіх рублях эквівалентная **$ 3**.

**Падпішчыкам у Расеі** паведамляем адрас у Санкт-Пецярбурзе: *191028 Санкт-Петербург, ул. Сикейроса 6-1-364, Ковалюк Евгении Трафимовне.* Кошт падпіскі на год – сума ў расейскіх рублях эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас у Беластоку: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «a», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная **$8**.

*Адрас для допісаў:*
***«Рунь»***
***2001 Vilnius, a/d 1021***
***Lithuania***

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў

**Ахвяраваньні на газэту:**

Worth Kon з Амэрыкі $20

**РУНЬ** газэта беларусаў Літвы
заснавальнік
**Таварыства беларускай культуры ў Літве**
выдаўца
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя дзеля Беларусі»**
адрас рэдакцыі
*A. Jakšto, 9-106, 2600 Vilnius, Lithuania*
тэлефон: *(+ 370 2) 62 55 71 ;*
факс: *(+ 370 2) 42 38 02.*
**Алег Мінкін** — рэдактар
**Павал Саўчанка** — сакратар
**Алег Аблажэй** — мастацкі аддзел
**Сяргей Вітушка** — аддзел гісторыі
**Алесь Трусаў** — рэкляма й распаўсюджаньне
друк UAB Adomo Jakšto spaustuvė
наклад 1000
*ISNN* **1392-7671**